ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 43 (2393) 27 кастрычніка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.



## З ПРЭЗІДЭНЦКАГА КАЛЕНДАРА

**Народу жывецца цяжка. Што да Прэзідэнта, што з Прэзідэнтам. Больш таго, жыццё пагаршаецца. Праўда, Прэзідэнт іншай думкі наконт гэтага. "Так, праблемы ёсць, але жыць жа можна, -- сцвердзіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы са сваімі суграмадзянамі ў шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах, куды прыехаў 18 кастрычніка. -- Мы паўтара месяца збіралі крошкі ў бюджэт, каб зараз павялічыць вашы даходы ў два разы".**

**Прэзідэнт меў на ўвазе, відаць, самую светлую падзею са свайго 100-дзённага календара, калі народ церпіць ды маўчыць. Напярэдадні было 17 кастрычніка, панядзелак, які можна назваць "светлым". У той дзень, выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета, Аляксандр Лукашэнка абвясціў народу свой Указ, паводле якога з 1 лістапада мінімальная заработная плата павялічваецца ў 2 разы.**

**Абяцанне закілзаць цэны і замарозіць заработную плату разбілася аб цвёрдыя рэаліі жыцця. Цэны не залежаць ад волі Прэзідэнта, яны падпарадкоўваюцца толькі законам эканомікі. Адзіная ўцеха, што "грошы, якія ўрад адшукаў, не надрукаваны ў сваёй масе, а зароблены".**

**Ды ў народа прэзідэнцкі клопат выклікаў пачуццё, так скажам, трывожнай радасці. Бо ў людзей выпрацаваўся ўжо сіндром страху: раз павышаецца зарплата, чакай, што паскачуць і цэны. Адным словам, гонка без перспектыў.**

**Адзінае, што можа мацаваць наш дух, -- гэта прэзідэнцкі аптымізм. На той жа сустрэчы ў Бараўлянах Аляксандр Лукашэнка заявіў: "Зрабілі, што змаглі. Перакананы, што далей будзе лягчэй... Упэўнены, што будучы год стане пераломным у нашай эканоміцы, паціху пачнем станавіцца на ногі".**

**Працоўны люд у такіх выпадках кажа: "Дай Бог чутае бачыць..."**

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: А.ЛУКАШЭНКА ў час наведання шпіталя ў Бараўлянах.**

ПРА ЯГО ДАГЭТУЛЬ ГАВОРАЦЬ ПАЎШЭПТАМ

## ХТО Ж ЁН, ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ?

Прозвішча гэтага чалавека марна шукаць у рэспубліканскіх энцыклапедычных даведніках. Не значыцца Францішак Аляхновіч і ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", першы том якой, куды і ён па логіцы павінен бы трапіць, выйшаў у 1984 годзе. Забыліся складальнікі пра Ф. Аляхновіча, хоць ён, як дакладна вызначыў абсягі творчасці Ф. Аляхновіча Анатоль Сабалеўскі, "займаўся драматургіяй, паэзіяй, прозай, публіцыстыкай, тэатразнаўствам, выступаў як рэжысёр і акцёр, вёў культурна-асветніцкую і грамадскую працу. І амаль ва ўсіх гэтых галінах творчасці пакінуў адметны і значны след". Нездарма ў свой час І. Дварчанін назваў Ф. Аляхновіча "бацькам беларускай драматургіі". Рэдка які аўтар здатны за дзесяць гадоў мастакоўскай працы, што часта перапынялася па прычынах, якія ад яго не залежалі, напісаць ажно 17 п'ес, ды такіх, пераважная большасць з якіх і сёння проста просіцца на тэатральныя падмосткі. Вельмі высока ацэньваў творчасць Ф. Аляхновіча Максім Гарэцкі, які ў сваёй "Гісторыі беларускай літаратуры" прысвяціў яму спецыяльны раздзел. У 1952 годзе італьянскі вучоны Джузэпе Месіна ў даследаванні "Беларуская літаратура" сведчыў: "Францішак Аляхновіч -- сапраўдны заснавальнік беларускага тэатра -- аўтар шматлікіх цудоўных п'есаў..."

Аднак не будзем спяшацца кідаць папрокі ў адрас супрацоўнікаў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Прычына доўгага замоўчвання прозвішча Ф. Аляхновіча больш складаная, чым падаецца на першы погляд.

(Працяг на 7-й стар.).

### І ЗНОЎ ПАДПІСКА!

**Яна будзе доўжыцца да 25 лістапада! Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, сустрэньце Новы 1995 год з "Голасам Радзімы"!**

**Кошт падпіскі на І квартал усяго 720 рублёў, на паўгоддзе — 1 440 рублёў.**

**Прыватызацыя ў Беларусі ідзе так марудна, што ствараецца ўражанне, быццам бы руху ў гэтым накірунку ўвогуле не адбываецца. За 1/6 адведзенага на яе тэрміну свае прыватызацыйныя чэкі атрымалі трохі больш за 3 працэнты насельніцтва рэспублікі (што само па сабе з'яўляецца надзвычай дзіўным), і ажыятажу, які павінна была выклікаць бясплатная раздача дзяржаўнай маёмасці, пакуль не назіраецца. Так што на фоне бясконцай тэлерэкламы шматлікіх расійскіх інвестыцыйных і чэкавых фондаў становішча з прыватызацыяй у Беларусі падаецца нават занадта спакойным.**

**Інтэрв'ю з Юрыем СІДАРОВІЧАМ, фінансавым дырэктарам фінансава-інвестыцыйнай кампаніі "Фінансы і актывы" -- толькі прыватны погляд на праблему прыватызацыі, але погляд чалавека, які сам шчыльна займаецца ёю. Вось таму ён і падаўся нам цікавым, што заслугоўвае ўвагі.**

*ДУМКІ НАКОНТ БЕЛАРУСКАЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ*

## ШЛЯХ У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ

*-- Юрый Міхайлавіч, як сёння выглядае працэс прыватызацыі ў нашай рэспубліцы?*

-- На сённяшні дзень у Беларусі зарэгістравана 13 інвестыцыйных фондаў, хаця дакументы падалі многія і многія кампаніі і фонды. Але адна справа -- стварыць фонд, і зусім іншая -- атрымаць дазвол на працу з чэкамі -- ліцэнзію Дзяржінспекцыі па каштоўных паперах і ліцэнзію Дзяржмаёмасці. Дзейнасць тых фондаў, што ўжо існуюць, залежыць ад мэт, якія яны перад сабою ставяць. Разглядаючы вопыт расійскіх фондаў, можна адзначыць: большасць з іх адразу ж паставіла перад сабою мэту скупіць у насельніцтва як мага болей чэкаў, а сабраўшы іх, прадаць і атрымаць прыбытак. Людзі, якія ўклалі свае чэкі ў такія фонды, магчыма нават атрымаюць дывідэнды (калі стваральнікі фонду не знікнуць з прыбыткам адразу, мы зараз ведаем і такія прыклады), але дывідэнды гэтыя яны ўбачаць усяго раз ці два. Другі варыянт -- і менавіта гэтым зараз займаецца наша кампанія разам з фондам "Дукат-інвест" -- укладанне чэкаў у прадпрыемствы і вытворчасці, у рэальныя праекты -- напрыклад, нейкае будаўніцтва. Галоўная мэта такой дзейнасці -- зрабіць так, каб грошы працавалі. Ну, напрыклад, калі мы пабудуем дом, то гэтая нерухомасць будзе прыносіць прыбытак доўга і няспынна.

*-- Але ж гэта, здаецца, не вельмі выгадна, бо калі той прыбытак яшчэ будзе...*

-- Не згодзен з вамі, бо лічу, што менавіта такі шлях і ёсць самае выгаднае ўкладанне сваіх сродкаў. Сёння вам могуць пабяцаць і 500, і 800, і нават 1 000 працэнтаў прыбытку ў год. І вельмі верагодна, што вы іх нават і атрымаеце. Але -- адзін раз. Бо мяркуйце самі: адкуль законнымі шляхамі ўзяць грошы на такія вялікія пастаянныя выплаты? Такі працэнт можна атрымаць, толькі прадаўшы адразу ўсе сабраныя чэкі. А што потым? Мы ж прапануем меншы, але пастаянны прыбытак, які будзе прыносіць дзеючая вытворчасць.

*-- Ці можа атрымацца сітуацыя, калі, напрыклад, нейкае прадпрыемства будзе знаходзіцца на грані банкруцтва, але ж вы вырашыце, што мае сэнс яго падтрымаць, і ўкладзяце туды грошы?*

-- Канешне. Сёння прадпрыемствы, куды мы ўкладзем сродкі, будуць выбірацца на аснове глыбокага аналізу, цвярозай ацэнкі іх сённяшняга становішча і перспектыў развіцця.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НАРЭШЦЕ!*

## БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВАЛЮТА

Беларускі рубель нарэшце дэ-юрэ набыў статус нацыянальнай валюты. 19 кастрычніка парламент прыняў пастанову: прызнаць адзіным законным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь беларускі рубель, а ў наяўным абарачэнні -- разліковы білет Нацыянальнага банка. Пры гэтым Нацбанку дадзена права ўстанаўліваць афіцыйны абменны курс беларускага рубля ў адносінах да расійскага рубля і да валют іншых дзяржаў, вызначаць парадак валютнага рэгулявання і абавязковага продажу ў адносінах валют рэспублік былога Савецкага Саюза.

Як адзначыў Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, з прыняццем данага дакумента хаджэнне іншых валют у рэспубліцы будзе незаконным. Пастанова тычыцца перш за ўсё гандлю, які апошнім часам усё часцей робіць разлікі з пакупнікамі ў доларах.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч падкрэсліў, што гэтая мера накіравана, у першую чаргу, на аздараўленне грашовай сістэмы дзяржавы і зніжэнне інфляцыі. Паводле яго слоў, на сённяшні дзень на руках у насельніцтва рэспублікі знаходзіцца каля двух мільярдаў долараў ЗША. Натуральна, што многія грамадзяне, улічваючы вялікія тэмпы інфляцыі, укладвалі свае зберажэнні ў долары ці маркі. Цяпер жа, перад тым як адправіцца за пакупкай, жыхар рэспублікі павінен будзе памяняць у абменным пункце замежную валюту на ўласную. Праўда, як сказаў Станіслаў Багданкевіч, нейкія выключэнні гандлю за валюту ўсё ж застануцца: дзяржава мае права выдаваць асобным магазінам ліцэнзіі. Але пры адсутнасці такога дазволу парушальнікам пагражаюць розныя санкцыі і штрафы. Пастанова Вярхоўнага Савета ўступае ў сілу з моманту яе апублікавання.

*ГРАМАДА ПРАТЭСТУЕ*

## КАМЕНЬ У АГАРОД ПРЭЗІДЭНТА

Члены фракцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ў Вярхоўным Савеце Беларусі выступілі з заявай, у якой паведамляюць, што маюць намер выступіць ініцыятарамі збору подпісаў дэпутатаў, неабходных для ўнясення на разгляд Канстытуцыйнага суда пытання аб праверцы канстытуцыйнасці прынятага закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні. "Прэзідэнт насуперак сваім перадвыбарным абяцанням вырашыў абаперціся не на народ, а на чыноўніцтва, якое скампраметавала сябе", -- адзначаецца ў заяве.

*КАЛЕКТЫЎНАЯ БЯСПЕКА*

## ДАГАВОР ІСНУЕ

Сакратар парламенцкай Камісіі па міжнародных справах Валянцін Голубеў зрабіў заяву, у якой сцвярджаў, што Беларусь з'яўляецца паўнапраўным членам Дагавора аб калектыўнай бяспецы (ДКБ) без агаворак. Выконваючы абавязкі начальніка аддзела МЗС па міжнароднай бяспецы і раззбраенню Іван Найдовіч пацвердзіў гэты факт.

-- З студзеня 1994 года ў дэпазітарыят МЗС Беларусі паступіў дакумент, датаваны 31 снежня 1993 года, за подпісам былога Старшыні ВС Беларусі С. Шушкевіча, у якім гаворыцца, што Беларусь далучаецца да ДКБ. Ніякіх агаворак дакумент не змяшчае, а гэта азначае, што Беларусь з'яўляецца паўнапраўным членам Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Выходзіць, Вярхоўны Савет, сцвярджаючы, што Беларусь далучаецца да ДКБ, толькі з агаворкамі, уводзіць у зман грамадскасць.

У ДКБ уваходзяць 8 краін. Сярод іх Расія, Таджыкістан, Узбекістан, Арменія, Кыргызстан, Казахстан, Азербайджан і Беларусь.

*ВАДА Ў ДЭФІЦЫЦЕ*



На гэтым здымку вы бачыце жыхара вёскі Бярозкі Гомельскага раёна невідушчага Віктара Самонава, якога па ваду водзіць чатырохгадовы ўнук Слава. У вёсцы няма пакуль водаправода, а адзіны калодзеж не можа забяспечыць усе падворкі вадой. Вось і спяшаецца дзед з унукам назапасіць ваду ў першай палове дня, таму што да вечара яна вычэрпваецца ў калодзежы да дна.

Кіраўнікі племзавода "Бярозкі" і суседняй гароднінная фабрыкі і хацелі б устанавіць водаправодныя калонкі, але справа ўпіраецца ў дэфіцытныя трубы і адсутнасць сродкаў на дарагія земляныя работы.

*ВЫСТАВАЧНЫЯ КАМПАНІІ*

## ДОМА І ЗА МЯЖОЙ

Паводле звестак БелаПАНа, у Беларусі зарэгістраваны 120 выставачных кампаній, якія арганізоўваюць выстаўкі ў рэспубліцы і за мяжой.

У гэтым годзе, напрыклад, Рэспубліканскі выставачны цэнтр (РВЦ) пры Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей запланаваў правесці чатыры выстаўкі, "Мінскэкспа" пры Гандлёва-прамысловай палаце рэспублікі -- 9, "Экспасервіс" -- 11, цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва "Цэнтр -- XXI стагоддзе" -- 6, "Экаінфармсістэма" -- 11.

Беларускія раздзелы ў міжнародных выстаўках за мяжой арганізуюць у асноўным РВЦ і ТПП.

Да актыўнага выхаду на замежныя рынкі імкнуцца і прыватныя выставачныя кампаніі, але яны пакуль не ў стане забяспечыць дзяржаўны ўзровень прадстаўніцтва беларускіх вытворцаў і іх тавараў.

*КАНФЕРЭНЦЫІ*

## САКРЭТНАЕ ПАГАДНЕННЕ

У Гродне завяршылася двухдзённая навуковая беларуска-польская канферэнцыя "Армія Краёва на тэрыторыі Заходняй Беларусі". Асаблівую цікавасць выклікаў даклад беларускага гісторыка Сяргея Таляронка, які ўпершыню на падставе дакументаў, атрыманых у міністэрстве замежных спраў ФРГ, абнародаваў савецка-германскае пагадненне 1939 года аб перасяленні беларусаў з акупіраванай Германіяй польскай тэрыторыі на тэрыторыю Заходняй Беларусі, якая адышла да СССР.

Як стала вядома БелаПАНу, гісторык заклікаў Міністэрства замежных спраў Беларусі звярнуцца да расійскага МЗС з прапановай абнародаваць не толькі гэты важны для нашай рэспублікі дакумент, але і ўсе суправаджальна-падрыхтоўчыя дакументы пагаднення, якія знаходзяцца ў Маскве.

*НА ВІЛЕНШЧЫНЕ*

## ВІЗАВЫ ПУНКТ

У пачатку кастрычніка ў літоўскім горадзе Пабрадзе прайшла ўстаноўчая канферэнцыя мясцовага аддзялення беларускага клуба "Сябрына", старшынёй якога абраны пчаляр Ігар Вішнякоў.

На канферэнцыі прысутнічалі консул Беларусі ў Літве Шастакоў, старшыня віленскага клуба "Сябрына" Валянцін Стэх, прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі з Вільнюса. Было прынята рашэнне арганізаваць у Пабрадзе візавы пункт, а таксама адкрыць беларускую бібліятэку і хаця б адзін беларускі клас у мясцовай школе.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЕЛАРУСЬ мае патрэбу штогод папаўняць свой аўтапарк 1 000 пасажырскіх аўтобусаў. Выпуск іх у хуткім часе павінна забяспечыць айчынная вытворчасць. Каля 500 машын будзе выпрацоўваць наш МАЗ сумесна з германскім "Неапланам". Акцыянернае таварыства "Амкадор" сумесна з венгерскім "Ікарусам" дасць яшчэ 300 аўтамабіляў. Наладжвае выпуск аўтобусаў і лідскі завод "Нёман".

ПАЛІВА для рухавікоў з рапсу, відаць, хутка з'явіцца на аўтазапраўачных станцыях Беларусі. Звярнуць увагу на гэту алейную расліну прымусіў энергетычны голад. Як сцвярджаюць спецыялісты, у 60-я гады на рапсавым паліве ўжо працавалі дызелі нашага транспарту. Потым пра яго забыліся: хапала бензіну. І вось успомнілі, калі грымнуў гром. Рапс для гэтых мэтаў можна будзе вырошчваць у забруджанай чарнобыльскай зоне.

МУЖ І ЖОНКА Мар'ян і Яўгенія Булгакі з Міхалішак, што ў Астравецкім раёне, прывезлі з лесу цэлы воз баравікоў. Калі падлічылі, белых грыбоў аказалася больш за тысячу. Хоць у кнігу рэкордаў Гінеса!

НАШЫХ дзяцей апанавала кароста. Як паведамілі ў мінскім скурвендыспансеры, за 9 месяцаў мінулага года было зарэгістравана 760 выпадкаў захворвання на кароcту. Сёлета ж за такі самы час маем аж 2 494 выпадкі. Найбольш распаўсюдзілася гэта хвароба ў рабочых раёнах сталіцы -- Заводскім, Першамайскім, Партызанскім.

БРЭСЦКІЯ чэкісты перадалі Камітэту па каштоўных металах і камянях 665 залатых вырабаў, агульная вага іх дасягае амаль што 4 кілаграмаў. Гэта "ўлоў" за тры апошнія гады на брэсцкім участку дзяржаўнай граніцы, кантрабанда з краін СНД і азіяцкага рэгіёна.

## ФЁДАРАЎ Фёдар Іванавіч

13 кастрычніка 1994 года на 84-м годзе жыцця раптоўна памёр буйнейшы фізік-тэарэтык, адзін з заснавальнікаў і арганізатараў фізічнай навукі ў Беларусі, Герой Працы, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, прэзідэнт Беларускага фізічнага супольніцтва, член прэзідыума АНБ, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, акадэмік АН Беларусі Фёдар Іванавіч Фёдараў.

Ф. Фёдараў нарадзіўся 19 чэрвеня 1911 года ў вёсцы Турэц Гродзенскай вобласці ў сям'і сельскага настаўніка (у будучыні -- вядомага беларускага пісьменніка Янкі Маўра). У 1936 годзе Ф. Фёдараў паспяхова абараніў дысертацыю па квантавай электрадынаміцы, выкананую пад навуковым кіраўніцтвам знакамітага вучонага акадэміка В. Фока, і стаў першым у рэспубліцы кандыдатам фізіка-матэматычных навук.

Ф. Фёдараў быў адным са стваральнікаў у 1955 годзе Інстытута фізікі і матэматыкі АН БССР (цяпер -- Інстытут фізікі імя Б. Сцяпанава), дзе арганізаваў лабараторыю тэарэтычнай фізікі, якую ўзначальваў да 1987 года. У 1954 годзе Ф. Фёдараў бліскуча абараніў у Ленінградзе доктарскую дысертацыю, стаўшы першым доктарам фізіка-матэматычных навук, які вырас і сфарміраваўся як вучоны ў нашай рэспубліцы. У 1956 годзе Фёдар Іванавіч абіраецца членам-карэспандэнтам, а ў 1966 годзе -- правадзейным членам Акадэміі навук Беларусі.

Ф. Фёдараў -- стваральнік новай навуковай канцэпцыі, якая грунтуецца на распрацаваных ім арыгінальных матэматычных метадах у тэарэтычнай фізіцы, што дазволіла адкрыць новы этап у развіцці крышталеоптыкі, крышталеакустыкі, тэорыі элементарных часціц і гравітацыі.

*ФОТАМАДЭЛЬ*

Як сцвярджае Ірына Ракава, якая працуе ў Беларускім цэнтры моды, работа манекеншчыцы, фотамадэлі -- гэта няспынная творчасць. Яна ў пастаянным пошуку вобраза, які максімальна раскрые вартасці дэманструемага ёю адзення. А кожны выхад на подыум -- гэта хваляванне, як перад выхадам на тэатральную сцэну.

Вядома, на першы погляд, подыум -- гэта рамантыка, неардынарнасць. З другога боку -- гэта пастаянная, напружаная праца, якая не вельмі высока аплачваецца ды і юрыдычна не абаронена. І многіх трымае тут толькі энтузіязм ды яшчэ жаданне хоць крышачку ўзняцца над нашай шэрай паўсядзённасцю.



НА ЗДЫМКУ: фотамадэль Ірына РАКАВА.



# МУЗЕЙ ЕЎРАПЕЙСКАГА ЎЗРОЎНЮ

**Гайнаўка. Гэта невялікі гарадок на ўсходзе Польшчы часта згадваецца цяпер у нашай прэсе. Мы ведаем, што значная частка насельніцтва Гайнаўкі -- беларусы. Яны тут жывуць спрадвеку, захоўваючы свае звычаі, традыцыі, мову. У апошнія гады Гайнаўка набыла шырокую вядомасць: тут пачата будаўніцтва Беларускага музея, да якога мае непасрэднае дачыненне Беларускае таварыства "Радзіма". Менавіта яно з'явілася адным з арганізатараў збору сродкаў на будаўніцтва музея.**

**Ну а згадваючы пра гайнаўскі музей, нельга не ўспомніць Канстанціна Майсеню, які ўзначальвае Грамадскі камітэт па будаўніцтву гэтага асяродка беларускай культуры. На думку Канстанціна Майсені, у Гайнаўцы ствараецца музей еўрапейскага ўзроўню.**

**Цяпер тут ужо працуе часовая экспазіцыя, якую наведваюць шматлікія госці.**

**А яшчэ Гайнаўка можа пахваліцца нядаўна збудаванай праваслаўнай царквой. Дарэчы, адным з ачагоў захавання беларускай культуры на Беласточчыне стала менавіта праваслаўная царква. Актыўны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары ў Гайнаўцы і яе ваколіцах прымае айцец Міхаіл Негярэвіч, які кіруе хорам сабора Святой Тройцы.**





**НА ЗДЫМКАХ:** будуецца Беларускі музей; сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы (2-гі —3-ці здымкі); Канстанцін **МАЙСЕНЯ** знаёміць наведвальнікаў музея з гісторыяй быту сялян.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



# ШЛЯХ У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Мы падрабязна вывучаем рынак і добра ведаем, што нават калі сёння прадпрыемства перажывае цяжкі перыяд, гэта яшчэ не значыць, што з яго ўжо нічога не атрымаецца. Па-першае, яго прадукцыя можа спатрэбіцца заўтра, па-другое, яго можна перапрафіліраваць ці мадэрнізаваць і такім чынам дапамагчы заводу ці фабрыцы і прынесці карысць нашым укладчыкам.

-- *Але ж ваша кампанія таксама купляе чэкі, як і іншыя...*

-- Не зусім так. Мы бяром іх на камісію -- заключаем з грамадзянамі дагаворы, згодна з якімі абавязваемся прадаць іх чэкі за пэўны тэрмін -- за месяц, напрыклад. Калі за месяц знойдзецца нехта, хто купіць чэкі, мы аддадзім грошы, калі не -- вернем чэкі. Не ўсе ж зараз імкнуцца іх некуды ўкладаць, бо для гэтага трэба думаць пра сваю будучыню, верыць у тое, што некалі ў рэспубліцы зменіцца эканамічнае становішча і доўгатэрміновыя інвестыцыі пачнуць прыносіць прыбытак. Да людзей, якія пойдуць менавіта такім шляхам, адносяцца ў першую чаргу тыя, каму зараз патрэбны грошы...

-- *Ці вялікія грошы ў выніку такой аперацыі можна атрымаць?*

-- Па агульнай колькасці чэкаў чалавек са стажам можа атрымаць 50 тысяч рублёў, што складае сёння прыкладна дзесяць долараў.

-- *Не вельмі вялікія сумы...*

-- Так, але ж прашу заўважыць, што ўпершыню дзяржава нам нешта проста так дае, а не забірае, як гэта звычайна было. У першую чаргу, чэкі імкнуцца прадаць маладыя людзі -- яны не прывыклі яшчэ думаць аб будучыні, і грошы ім патрэбны зараз. Ну а некаму проста захочацца выпіць, за такія грошы пакуль што яшчэ можна ажыццявіць гэтую мару. Сюды ж адносяцца старыя. Такім людзям мы і можам дапамагчы.

-- *Але ж ёсць яшчэ адзін шлях -- укласці свае чэкі ў буйныя прадпрыемствы, у ашчадных касах вісяць іх спісы...*

-- Мне падаецца, што гэта не самы лепшы шлях, бо вялікія заводы-монстры зараз стаяць без камплектуючых, і ўсе іх прыбыткі яшчэ доўга будуць ісці на рэканструкцыю прадпрыемстваў, а не на выплату дывідэндаў. Больш надзейна звярнуцца тады ўжо да невялікіх заводаў ці фабрык...

-- *Калі чую аб аферах з расійскімі чэкамі, я, шчыра кажучы, думаю, што мабыць мы, беларусы, хаця б чаму-небудзь навучымся на іх вопыце. Але як мне, чалавеку, які не вельмі разбіраецца ў фінансавых справах, не разгубіцца і не зрабіць памылкі?*

-- Галоўнае, не трэба спяшацца. Згодна з законам, інвестыцыйны фонд павінен укладаць чэкі толькі туды, куды абяцаў. А гэта падрабязна запісана ў яго статуце і праспекце эмісій. І калі там сказана, што фонд збіраецца ўкладаць сродкі ў вытворчасць, а ён заўтра прадаў усе чэкі, вы можаце падаць у суд на яго. Канешне, калі яшчэ будзе на каго... Паглядзіце, ці мае гэты фонд ліцэнзію Дзяржмаёмасці і Дзяржінспекцыі па каштоўных паперах. Праверце, хто іх заснавальнік, што яны абяцаюць. Карацей кажучы, вы ж патрабуеце дакументы ў манцёра, які прыходзіць да вас дамоў, а тут справа куды больш сур'ёзная. Дык прыміце элементарныя меры перасцярогі.

-- *Як вы лічыце, ці многа будзе на Беларусі выпадкаў, падобных на гісторыі з "МММ", "Тыбетам" і іншымі сумнавядомымі кампаніямі?*

-- Наша заканадаўства сёння спрабуе максімальна абараніць грамадзян шляхам вельмі жорсткага кантролю за выкарыстаннем чэкаў. Поўнасцю выключыць магчымасць афер нельга, але мне здаецца, што яны не будуць такімі маштабнымі і балючымі, як у Расіі.

-- *Як вядома, беларускія прыватызацыйныя чэкі былі абаронены значна лепш за расійскія. Яны імянныя, ды і працэдура іх атрымання не такая простая. Скажыце, ці не ўзнікла ў сувязі з гэтым складанасцей?*

-- Я разумею, мэта праследавалася самая высакародная, але пакуль што нічога добрага, на мой погляд, не атрымалася. Чэк -- гэта каштоўная папера, якая па-сапраўднаму каштоўнай становіцца толькі тады, калі яна можа свабодна абарачацца. Сёння гэта амаль немагчыма. Таму тое, што пры намінальнай цане чэка 2,5 тысячы рублёў яго сёння можна прадаць усяго за 500 рублёў, і гаворыць аб тым, чаго дабілася дзяржава, ускладніўшы аперацыі з чэкамі. На маю думку, гэтыя меры абароны не апраўданы, бо калі я маю каштоўную паперу, я павінен мець права ў любы момант зрабіць з ёю, што хачу. Я лічу, што гэта можна расцаніць, як абмежаванне права асобы распараджацца яе ўласнасцю. У нас на Беларусі, як і паўсюль у былым Савецкім Саюзе, было прынята, што тэарэтычныя распрацоўкі любой справы ажыццяўлялі адны людзі, а ў практыку іх увасаблялі зусім іншыя. І гэты разрыў паміж тэорыяй і практыкай і прыводзіць да такіх сітуацый, калі за адну шостую часу, адведзенага на прыватызацыю, чэкі атрымала менш за тры працэнты насельніцтва. Да таго ж, дзяржава наша традыцыйна не прывыкла клапаціцца пра інтарэсы сваіх грамадзян. На жаль, дагэтуль няма дакладнай канцэпцыі прыватызацыі ў Беларусі, уяўлення аб тым, як яна будзе ажыццяўляцца, што менавіта будзе прыватызавана і як...

-- *А ці адбудзецца яна тут увогуле? Мне падаецца, што сёння ёсць усе падставы, каб задаць такое пытанне?*

-- Я думаю, што людзі, якія хацелі б, каб яна не атрымалася, ёсць, але мы тут -- апошнія. Паўсюль ідзе гэты працэс, у Расіі ён ужо заканчваецца. Наўрад ці мы зможам застацца адзіным астраўком сацыялізму са сваімі законамі і формамі ўласнасці ў гэтым рынкавым моры. Прыватызацыя неабходна, і занадта ж многа людзей ужо ўклалі ў яе грошы і зацікаўлены ў ёй. Прасачыце за выказваннямі нашага прэзідэнта наконт прыватызацыі: спачатку ён ставіўся да яе вельмі адмоўна, потым выказванні сталі больш мяккімі, зараз ён гаворыць аб прыватызацыі, як аб рэальнай справе. Нам нікуды не дзецца ад гэтага. Будуць пэўныя цяжкасці, бо на Беларусі не многа людзей, якія добра разбіраюцца ў гэтай справе. І праграма нашай прыватызацыі ў многім проста спісана з расійскай. Але ж паўтараю яшчэ раз: гэта працэс непазбежны, дарога, па якой нам так ці інакш трэба будзе прайсці, каб у рэшце рэшт трапіць у цывілізаваны свет.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

## ПАЯДЫНАК

1915-1916 і 1917 гады я правёў на фронце ў часе першай сусветнай вайны. Усім вайна абрыдла, таму не стану апісваць жыццё на пазіцыях, толькі зарысую некалькі цікавых выпадкаў, у якіх я прымаў непасрэдны ўдзел.

Адбылося тое ўлетку 1916 года. Стаялі мы на ўмацаваных пазіцыях аж з 1915 года. Фронт не пасоўваўся ні ў бок немцаў, ні ў наш. На першай лініі трымалі абарону два палкі дывізіі сем дзён, а пасля замянілі другія два палкі дывізіі, а мы адыходзілі ў дывізійны рэзерв на адпачынак, болей-меней за 9--10 кіламетраў ад першай лініі. Прыйшоўшы на адпачынак, ачышчаліся ад бруду, спалі па дванаццаць--пятнаццаць гадзін, а затым ішлі на паляванне, бавіліся ў гарадкі, валачыліся за медсёстрамі і жанчынамі-ўрачамі, гулялі ў карты на грошы, а грошай у кожнага афіцэра было шмат, асабліва ў нежанатых і тых, хто прабыў доўгі час на фронце. Тут траціць не было на што.

Вось пэўнага дня сабраліся мы, некалькі афіцэраў, у былым палацы нейкага графа Бержанскага недалёка м. Крэва і заселі за прэферанс -- капітан Сырамятнікаў, штабс-капітан Мацукевіч, незнаёмы нам да таго сапёрны паручнік Смірноў і я.

Пад рукамі аказаўся ломберны столік, пакрыты зялёным сукном, і мы запісы рабілі мялкамі.

Умовіліся па аднаму рублю фішка, гэта значыць, што калі будзе выйграна плюс 500 пунктаў, то выйграна 500 рублёў. Як бачым, ігра была не на жарты. За пульку ў 120 можна было выйграць дзве, а то і болей тысяч або гэтулькі і прайграць! Пры такой крупнай ігры рызыкаваць нельга. Я заўсёды іграў у прэферанс асцярожна, вытрымана. Калі карта не ішла, то стараўся наганяць на вістах і таму ніколі многа не прайграваў. У той раз мне ішла карта надзвычай добра. Раней другіх скончыў пульку і пачаў спісваць з партнёраў.

Страшэнна не ўдавалася паручніку Смірнову. Ён, праўда, не меў добрай управы ў прэферансе, а да таго і карта не ішла. Пачаў рызыкаваць, наставіў наверх штрафных некулькі соцень. Тут ужо пахла трымачатырма тысячамі рублёў. Прайграючы, паручнік Смірноў пачаў хваляваццa, купляць у цёмную і яшчэ болей ставіў наверх "кур". Каб паправіць некалькі свае справы, незадачлівы ігрок пачаў спісваць замест шасці -- дванаццаць, замест дзевяці -- дваццаць чатыры і г.д. Заўважаю адзін раз шулерства, другі, але маўчу, не ведаю, ці заўважылі іншыя партнёры. А калі і трэці раз паручнік Смірноў спісаў замест шасці дваццаць чатыры, я не вытрымаў, назваў яго ашукантам, кінуў карты, адышоў да вакна, расчыніў і пачаў удыхаць свежае паветра.

Наступіла збянтэжанасць. Усе паўставалі са сваіх месцаў. Паручнік Смірноў разгублены. Пасля ён сказаў: "Заўтра будзем страляцца, сёння ўвечары прышлю сваіх секундантаў". З тымі словамі ён выйшаў з дому.

Калі дзверы за паручнікам Смірновым зачыніліся, капітан Сырамятнікаў сказаў, што ён два разы падмеціў, як паручнік Смірноў фальшыва спісваў свае штрафныя, а штабс-капітан Мацукевіч заўважыў адзін раз. Такім чынам, калектыўна Смірноў быў улічаны ў шулерстве.

Для нас, афіцэраў рускай арміі, такі нягодны ўчынак быў зусім незразумелы. Праўда, у часе вайны шмат рознага, як кажуць, цёмнага элементу папала ў войска і атрымала званне афіцэра. Аднак, як бы там ні было, а справа рабілася складанай, тым болей, што ў нашым палку, ды і ў суседніх вайсковых злучэннях афіцэры ведалі, як я цэльна пападаю з пісталета. Сумнення не было: калі паядынак адбудзецца, то Смірноў напэўна будзе забіты, а тады мне прыйдзецца адказваць перад вайскова-палявым судом. Як вядома, паядынак быў забаронены вышэйшаю ўладаю.

Мае секунданты, як можна лёгка здагадацца, былі капітан Сырамятнікаў і штабс-капітан Мацукевіч. Яны далі слова, што прымуць усе захады, каб паядынак не адбыўся.

Я быў зусім спакойны. Мяне нават цікавіла ўся гэта гісторыя.

Праз пару гадзін секунданты паручніка Смірнова сустрэліся з маімі секундантамі. Умовы паядынка секунданты выпрацавалі і паінфармавалі як Смірнова, так і мяне. Паядынак меў адбыцца назаўтра раніцою, а пятай гадзіне 10 ліпеня 1916 года, на маленькай палянцы, абкружанай з усіх бакоў сасновым борам.

Умовы паядынка: адлегласць сорак пяць крокаў, сходзіцца адзін да другога да адлегласці дваццаці пяці крокаў. Аднак ад зыходнага пункту ўжо мелі права страляць. На гэтым настаялі мае секунданты. Яны ведалі, што на сорак пяць крокаў я з пісталета без промаху разбіваў бутэльку.

Уначы я не спаў, і не таму, што хваляваўся, а ў кампаніі са сваімі секундантамі падвыпілі і гралі ў карты аж да чацвёртай гадзіны раніцы, калі ўсе разам накіраваліся на прызначаную палянку.

Пяць гадзін. Праціўніка няма. Яшчэ паўгадзіны чакання. Мы ўжо лічылі, што Смірноў адмовіўся ад паядынка. Аднак выйшла інача. З лесу выехаў коннік, адзін з яго секундантаў, і, пад'ехаўшы да нас, голасна закрычаў: "Не чакайце. Паядынак ужо адбыўся з другім праціўнікам. Паручнік Смірноў уначы цяжка ранены ў часе сапёрных работ на першай лініі і адвезены ў шпіталь".

Так і скончыўся наш паядынак. Болей паручніка Смірнова я ў сваім жыцці не сустракаў.

### З ВІЛЬНІ

## ДНІ БЕЛАРУСАЎ У ЛІТВЕ

Асноўнай падзеяй Дзён беларусаў Літвы, якія ладзіць Цэнтр культурнай дзейнасці Усходняй Літвы, стала навуковая канферэнцыя на тэму: "Літоўска-беларускія сувязі ў 1900--1940 гг."

У ранніх гадзінах у прасторнай зале Віленскага тэхнічнага універсітэта (Базыльянскія муры, 7) сустрэліся навукоўцы і дзеячы Літвы з прадстаўнікамі культурных слаёў беларускіх згуртаванняў.

Адкрываючы канферэнцыю, старшыня беларускага клуба "Сябрына" падкрэсліў паступовае збліжэнне і ўзмацненне кантактаў беларускага і літоўскага грамадства Віленшчыны.

Вядомы навуковец з літоўскага Таварыства беларусістыкі Альма Лапінскене ў змястоўным рэфераце адлюстравала супрацоўніцтва літаратурных і мастацкіх асяроддзяў Віленшчыны. Багатая на пачатку дваццатых гадоў беларуская літаратура і прэса заўсёды асвятлялі сітуацыю літоўцаў пад польскаю ўладаю. А літоўская прэса і літаратура ў тым часе цікавіліся развіццём і дасягненнямі беларусаў у Заходняй Беларусі. Цэлая плеяда беларускіх літаратараў: Максім Танк, Міхась Машара, Хведар Ільяшэвіч, Васілёк і іншыя -- сябравалі з літоўскімі літаратарамі. Беларускія часопісы "Калоссе", "Шлях моладзі", "Беларускі летапіс" і іншыя часта змяшчалі на сваіх старонках матэрыялы пра жыццё і падзеі ў літоўскім грамадстве.

Варта дадаць, што сяброўства і ўзаемадапамога мастакоў таксама далі вельмі дадатныя вынікі.

Малады навуковец Рымантас Мікніс дэталёва і змястоўна даследаваў гістарычныя падзеі ў Літве ў 1905--1919 гадах.

Старшы навуковы супрацоўнік літоўскага інстытута літаратуры Ванда Місявічэне пазнаёміла слухачоў з фальклорам Літвы і Беларусі, з іх узаемнымі ўплывамі. Яны асабліва прыкметныя ў раёнах сумежжа, галоўным чынам, у народных песнях.

Мінорным акцэнтам была адсутнасць з невядомых прычын беларускіх дакладчыкаў -- Сяргея Шупы і Мікалая Савіча.

У заключным слове Ёзас Жыткаўскас -- менеджэр Цэнтра культурнай дзейнасці Паўднёвай Літвы падзякаваў прысутным за іх актыўную зацікаўленасць культурнымі сувязямі Літвы і Беларусі. Гэтыя сувязі карысныя і неабходныя абодвум народам.

У гэты ж дзень 13-га кастрычніка адбылася сустрэча старшыні згуртавання "Бацькаўшчына" Ганны Сурмач з сябрамі і прыхільнікамі Таварыства беларускай культуры. Яна падзялілася ўражаннямі з паездкі ў Англію, Нямеччыну, Канаду і ЗША.

**Аляксей АНІШЧЫК.**



**У рамках Дзён беларусаў Літвы адбылася выстаўка твораў гродзенскіх мастакоў Ю. ЯКАВЕНКІ, У. ГОЛУБА і мясцовых А. АБЛАЖЭЯ, К. і А. БАЛАХОВІЧАЎ.**

### У ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## КАВАЛАЧАК БЕЛАРУСІ Ў ЭСТОНСКІМ ГАРАДОЧКУ ЙЫХВІ

НЕВЯЛІЧКІ эстонскі гарадок Йыхві на беразе Балтыйскага мора. На сабе давялося адчуць, як туды цяпер "лёгка" трапіць пасля ўвядзення мяжы: транзітная літоўская віза (пасольства ў Мінску), транзітная латвійская і эстонская візы (афармленне ў пасольстве Эстоніі, якое знаходзіцца ў Вільні); тры мяжы -- літоўская, латвійская, эстонская з праверкай віз, кейсаў, дамскіх сумачак і суткі язды ў амаль пустым цягніку "Чайка". Па прыездзе адразу ж трапляем у абдымкі нашых даўніх сяброў "БЭЗ"аўцаў. Калі мы ўбачылі іх радасныя твары і пачулі: "Бацькаўшчына" нарэшце праз пяць гадоў нашага існавання прыехала да нас", уся стомленасць і дрэнныя ўспаміны пра дарогу раптам зніклі.

У Йыхві знаходзяцца вядомыя ва ўсім свеце залежы сланцаў. Гэта горад шахцёраў, а амаль палова насельніцтва -- беларусы, якія прыехалі сюды працаваць пасля вайны, калі пачыналіся падземныя распрацоўкі. Раней гэта месца называлася Кохтла-Ярве, а зусім з нядаўняга часу яно распалася на два самастойныя гарады Кохтла-Ярве і Йыхві. Так "БЭЗ" стаў йыхвінскім.

Беларусаў вельмі многа за межамі нашай рэспублікі, але не ва ўсіх рэгіёнах яны гуртуюцца, цікавяцца сваёй спадчынай. Тут ім проста пашанцавала, знайшліся актывісты, якія пачалі жыць і працаваць дзеля беларускай справы, прапагандаваць беларускую культуру, гісторыю. Зінаіда Клыга, добра вядомая ў Беларусі (яна ўваходзіць у Вялікую Раду нашага згуртавання), Маргарыта Астраумава -- мастачка -- дырэктар мясцовай мастацкай школы, дэпутат гарадской мэрыі і паважаны чалавек у горадзе. Гэтыя вельмі сімпатычныя і энергічныя жанчыны змаглі падабраць такі ж актыў, які складаецца з 30 чалавек. Самае цікавае, што "БЭЗ" існуе з 1989 года і нават прымаў удзел у стварэнні "Бацькаўшчыны". Успамінаючы хроніку станаўлення "БЭЗ"а, уяўляеш, якую вялікую працу ён праводзіць. Кожны тыдзень вечарыны, на якіх знаёмяцца з навінамі з Беларусі, спяваюць беларускія песні, пастаянныя вандроўкі на Беларусь пад сцягам згуртавання, стварэнне сваёй бібліятэкі, святкаванне ўсіх беларускіх святаў, правядзенне выстаў народных умельцаў, твораў беларускіх мастакоў, удзел у беларускіх навуковых і культурных канферэнцыях, прыём у сябе беларускіх калектываў, удзел у конкурсе дзіцячага малюнка ў XX штогадовай выставе ў Саўт-Рыверы (ЗША), праца на хвалях Эстонскага радыё (беларуская панарама) -- праца таварыства цікавіць не толькі этнічных беларусаў. Пасля прыёму ў мэра горада мы адчулі, з якой павагай ставяцца мясцовыя ўлады да беларусаў.

Чарговае мерапрыемства, якое праводзіць "БЭЗ" і на якое мы прыехалі, -- Дні беларускай культуры. Яно пачалося з адкрыцця выставы беларускіх мастакоў з Вільні Андруся Балаховіча і Уладзіміра Кузьменкі, творы якіх будуць выстаўлены цэлы месяц у філіяле Дзяржаўнага мастацкага музея. Уразіла колькасць людзей, сярод якіх -- эстонцы, рускія, немцы, яўрэі. Частым госць "БЭЗ"а генеральны консул беларускага консульства ў Таліне Міхаіл Саўчанка, ён павіншаваў прысутных і ўручыў пасведчанні аб беларускім грамадзянстве. Дарэчы, "БЭЗ" дапамагае яму ў афармленні віз, бо наша консульства ў Эстоніі прадстаўлена пакуль толькі ў адной яго асобе. Здзіўляешся, як ён адзін спраўляецца вырашаць розныя пытанні, з якімі да яго звяртаюцца беларусы. Дасведчаны і вопытны дыпламат, ён заўсёды дапамагае ў правядзенні культурных мерапрыемстваў не толькі ў арганізацыйных пытаннях, але і фінансавых.

У гэты вечар было многа выступленняў прадстаўнікоў ад "Бацькаўшчыны" і мясцовых беларусаў, а потым вядомы беларускі бард і паэт Анатоль Кудласевіч спяваў і чытаў свае вершы. Вялікая зала была поўная, і ніхто не хацеў разыходзіцца. Да самай раніцы за кубачкам кавы вяліся размовы, гучалі беларускія песні.

Наступны дзень пачаўся з працы: давалі інтэрв'ю Эстонскаму радыё (руская, беларуская, эстонская панарамы), абмяркоўваліся планы дзейнасці "БЭЗ"а, вызначаліся агульныя мерапрыемствы, а з БКТ (Талін) запланавалі правесці калядную вечарыну з удзелам народнай артысткі Таццяны Мархель.

А па дарозе ў Талін да нас падселі дзве жанчыны з суседняга гарадка і вельмі шкадавалі, што не змаглі прыехаць на вечар: адмянілі электрычку.

За час знаходжання ў Эстоніі мы размаўлялі з многімі беларусамі з розных месцаў, і ніхто з іх не сказаў, што да іх дрэнна ставяцца эстонцы, хутчэй наадварот, ніхто б не хацеў пераехаць жыць у Беларусь: высокі жыццёвы ўзровень (сярэдняя зарплата 150--200 долараў у месяц пры аднолькавых з намі цэнах). З сумам павінна зазначыць, што ёсць і іншыя беларусы, якія хацелі б вярнуць былыя часы, калі яны адчувалі сябе гаспадарамі на чужой зямлі.

Ад'язджалі з Таліна позна ўвечары. Мы развіталіся з нашымі талінскімі сябрамі, а ў галаве гучалі словы паэта, сябра "БЭЗ"а Уладзіміра Дзехцерука:

-- На радзіме можа загінуць беларускасць, а мы тут гэтага не дадзім зрабіць.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

201

І гэта было якраз тое, чаго не дачакаліся паддадзеныя Расіі ад Часовага ўрада. Нават беларускія дзеячы ўскладалі нейкія надзеі на бальшавікоў. Ва ўсякім разе яны не перашкаджалі росту іх уплыву на Беларусі. Цэнтрам бальшавіцкай дзейнасці становіцца Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў. 4 чэрвеня бальшавікі Мінска рвуць сувязь з меншавікамі і ствараюць адасобленыя арганізацыі.

**ПАЛЯВЕННЕ ГРАМАДАЎЦАЎ.** Адначасова і Беларуская Сацыялістычная Грамада вымушана была прыстасоўвацца да ўсё лявеючага настрою народных мас. 4--6 чэрвеня яна сабрала свой II з'езд у Петраградзе, прыняла на ім праект новай праграмы і паставіла на чале ЦК З.Жылуновіча. БСГ абвясціла сваёй мэтай увядзенне сацыялістычнага парадку праз класавую барацьбу і сацыяльную рэвалюцыю. Праграма прадугледжвала шырокае развіццё беларускай культуры, нацыянальнай школы, поўнае самакіраванне Беларусі з заканадаўчай Краёвай Радай і раўнапраўе ўсіх нацый, што жылі на беларускай зямлі. БСГ была тады адзінай нацыянальнай партыяй, якая ўдала спалучала ў сваёй праграме нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы свайго пераважна сялянскага народа. І гэтую партыю група дэлегатаў ад Беларусі на Усерасійскім з'ездзе сялянскіх дэпутатаў, што адбыўся ў маі, абвясціла партыяй буйных памешчыкаў.

**НАРАСТАННЕ РАСІЙСКАГА ЭКСТРЭМІЗМУ.** Між тым у краіне выспяваў палітычны крызіс. Незадаволенасць Часовым урадам вяла да кансалідацыі двух полюсаў крайне левых і крайне

202

правых сіл, якія пагражалі гвалтоўным захопам улады. Узнімаліся дзве пагрозлівыя постаці: з боку левых -- У.Ленін, з боку правых -- Л.Карнілаў. Часовы ўрад меркаваў выйсці з крызісу шляхам пераможнага наступлення на фронце. 18 чэрвеня ў Мінску прайшла дэманстрацыя, на працягу якой узнікла бойка паміж прыхільнікамі Часовага ўрада і яго праціўнікамі. Бальшавіцкія лозунгі ў рэшце рэшт былі знішчаны. Не ўдалася спроба бальшавікоў наблізіцца да ўлады і ў Петраградзе. Арганізаванае імі масавае выступленне жыхароў сталіцы 4 ліпеня было жорства задушана.

## 24.2. "Збіранне камянёў"

**II З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ.** На хвалі рэвалюцыянізму БСГ спрабуе адхіліць лібералаў ад кіраўніцтва беларускім рухам. Але і яны гуртуюцца ў Беларускую Партыю Народных Сацыялістаў на чале з Алексюком. Узнікшыя спрэчкі вымагаюць склікаць II з'езд прадстаўнікоў беларускіх партый і арганізацый 8--12 ліпеня ў Мінску. З вялікай цяжкасцю дэлегатам удаецца паразумецца на платформе неабходнасці адзінага нацыянальнага фронту і абраць, замест Беларускага Нацыянальнага Камітэта, Цэнтральную Раду Беларускіх Арганізацый і Партый. Праўда, пазней энэсы (члены Беларускай Партыі Народных Сацыялістаў) выйшлі са складу Рады. Кіраўніцтва беларускім рухам пераходзіла да левых сіл.

**ДЗЕЙНАСЦЬ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ.** Новая галоўная арганізацыя беларусаў набыла выраз-

203

на дэмакратычны характар. Яна заявіла аб сваім імкненні перадаць усю зямлю без выкупу працоўнаму народу. Цэнтральная Рада аб'ядноўвала толькі такія грамадскія і палітычныя арганізацыі, якія прызнавалі патрэбу аўтаноміі Беларусі, роднай мовы і развіцця нацыянальнай культуры. У склад яе Выканаўчага камітэта ўвайшлі Лёсік, Дыла, Астроўскі, Галавач, Шантыр, Смоліч, Курчэвіч-Сяўрук, Бадунова, Жылуновіч і Каткоўская (у якасці кандыдата). Друкаваным органам Рады стала газета "Вольная Беларусь", якая выходзіла ў Мінску з 28 мая пад рэдакцыяй Язэпа Лёсіка.

Круг чыннасці Цэнтральнай Рады пашыраецца. Яна ладзіць сувязі з бежанцамі і абараняе іх правы, робіць захады супраць вырубкі лясоў на Беларусі. Не адстаючы ад бальшавікоў, радцы звяртаюць пільную ўвагу на замацаванне свайго ўплыву сярод узброеных сіл. Прымаецца спецыяльны "Статут беларускіх нацыянальных культурна-асветных гурткоў у войску". Ён прадугледжвае нацыянальнае самавыхаванне беларусаў-вайскоўцаў і безумоўны ўдзел іх у абароне заваёў рэвалюцыі. Таму, калі ў жніўні рабілася спроба захопу ўлады Карнілавым, на абарону дэмакратычнай Расіі дружна ўзняліся ўсе беларускія сілы. І перамога над карнілаўшчынай не была заслугай адных бальшавікоў, як яны тое сцвярджалі. Тым не менш, Цэнтральная Рада дзейнічала пераважна як нацыянальна-культурная арганізацыя, і пытанне аб уладзе яе як быццам не турбавала.

Але пасля карнілаўшчыны Расію рэзка хіснула ўлева. Стала відавочнай поўная нежыццяздоль-

204

насць Часовага ўрада. На Беларусі існавала два блокі палітычных сіл -- беларускі і расійскі. Менавіта яны маглі забраць тут уладу ў свае рукі. У жніўні-лістападзе ішла іх хуткая кансалідацыя.

**БЕЛАРУСКІ РУХ У АРМІІ.** Яшчэ ў маі Беларускі Нацыянальны Камітэт стварыў Вайсковую беларускую арганізацыю. Тады ж узніклі і першыя паўлегальныя аб'яднанні беларусаў у войску. Першы гурток беларускіх армейцаў 8 мая стварыў унтэр-афіцэр Язэп Мамонька ў 12-й арміі Паўночнага фронту. Матрос Васіль Муха аб'яднаў маракоў-беларусаў Балтыйскага флоту. Сярод салдат і афіцэраў Петраградскага гарнізона займаўся гуртаваннем суайчыннікаў падпаручнік Аляксандр Чарвякоў, у 15-й арміі пад Дзвінскам -- паручнік Кастусь Езавітаў, на Заходнім фронце -- унтэр-афіцэр Сымон Рак-Міхайлоўскі і падпаручнік Ігнат Дварчанін, на Румынскім -- паручнік Антон Баліцкі і Сцяпан Некрашэвіч. Да беларускага руху далучыліся генералы Алексіеўскі, Кандратовіч, Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і некаторыя іншыя старшыя афіцэры.

З жніўня ўсе расійскія арміі сталі пакрывацца густой сеткай беларускіх арганізацый. Яны знаходзіліся пад уплывам пераважна эсэраў і Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Дзякуючы энергічнай прапагандзе забраных у войска настаўнікаў на чале з С.Рак-Міхайлоўскім, была падрыхтавана глеба для арганізацыйнага аб'яднання беларускіх вайсковых гуртаў. 18--24 кастрычніка ў Мінску адбыўся з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. Прыехалі і прадстаўнікі беларускіх арганізацый Балтыйскага

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

205

флоту, Румынскага і Паўночнага франтоў. Сакратаром з'езда была Зоська Верас. Дэлегаты выказалі гатоўнасць абараняць родную беларускую зямлю і расійскую дэмакратыю, прынялі рэзалюцыю аб пашырэнні беларускіх вайсковых арганізацый і абралі Беларускую Вайсковую Раду Заходняга фронту, якая пазней перарасла ў Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду. Членамі гэтай рады сталі Мамонька, Рак-Міхайлоўскі і іншыя.

**СТВАРЭННЕ ВЯЛІКАЙ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫ.** Вайсковая Рада паслала сваіх прадстаўнікоў у Цэнтральную Раду Беларускіх Партый і Арганізацый. Пасля чаго гэтая арганізацыя набыла характар палітычнага цэнтра і атрымала назву Вялікая Беларуская Рада. 27 кастрычніка яна выдала "Грамату беларускаму народу", дзе выклала сваю праграму адзінага нацыянальнага фронту.

**НЕТРЫВАЛАСЦЬ АДЗІНАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФРОНТУ.** Амаль адначасова з вайсковым з'ездам у Мінску праходзіў і III з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады (14--25 кастрычніка). Ён канчаткова зацвердзіў праграму партыі і прыняў рэзалюцыю па аграрнаму пытанню. Грамадаўцы выказаліся за нацыяналізацыю зямлі і перадачу яе ў распараджэнне Краёвай Рады Беларусі. Беззямельным і малазямельным сялянам абяцаліся надзелы не ніжэй харчовай і не вышэй працоўнай нормы. У Цэнтральны Камітэт БСГ увайшлі Язэп Дыла (старшыня), беларускі паэт Алесь Гарун, Аркадзь Смоліч, Палута Бадунова, Язэп Варонка, Сы-

206

мон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч і іншыя. Дэлегатамі з'езда былі такія вядомыя беларускія дзеячы, як Ігнат Дварчанін, Радаслаў Астроўскі, Аляксандр Чарвякоў, Фабіян Шантыр. Але адзінства сярод грамадаўцаў не было. Петраградская арганізацыя ўсё больш хілілася да бальшавікоў. Мінская таксама лявела, але заставалася на пазіцыях сацыял-дэмакратызму. Незадаволенасць агульнадэмакратычнай праграмай Цэнтральнай Рады прывяла членаў БСГ да выхаду з Выканкома гэтай арганізацыі.

Моцнае супрацьдзеянне Вялікай Беларускай Радзе аказваў створаны ў канцы кастрычніка ў Пецярбургу Беларускі Абласны Камітэт пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў. Абласнікі, што знаходзіліся пад уплывам бальшавікоў, выступалі супраць аўтаноміі Беларусі і не прызнавалі самабытнасці яе культуры.

**УЗРАСТАННЕ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПАГРОЗЫ.** Першая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя партыі бальшавікоў, што праходзіла ў сярэдзіне верасня, абгаварыла пытанне аб зброяным паўстанні і абрала Паўночна-Заходні абласны камітэт партыі пад старшынствам А. Мясмікова. Бальшавікі абапіраліся тут амаль што выключна на расійскае войска, якое гатова было кінуць вайну з немцамі і распачаць рабочую вайну з буржуямі. Бальшавікі мелі тут перавагу над беларускімі сіламі, бо на Заходнім фронце доля беларускіх вайскоўцаў была зусім нязначнай. Але ленінская партыя зусім ігнаравала мясцовыя інтарэсы, і толькі эсэры

207

ставіліся да іх з разуменнем, бо мелі даўнюю традыцыйную сувязь з беларускай вёскай.

**БАЛЬШАВІЦКІ ПЕРАВАРОТ: НАДЗЕІ І РАСЧАРАВАННІ.** Падзенне Часовага ўрада, захоп бальшавікамі ўлады ў Петраградзе 25 кастрычніка і ленінская "Дэкларацыя правоў народаў Расіі", апублікаваная 2 лістапада, узнавілі надзею на лепшае, але не надоўга. Хутка стала відавочным, што наступае поўнае бязладдзе, а армія ў любы момант можа пакінуць акопы і разліцца па Беларусі рабаўнічай плынню. Трэба было бараніць беларускі народ, яго багацці ды і тэрытарыяльную цэласнасць, якой пагражала бальшавіцкая анархія і кайзераўская армія.

**НА ЭТАПЕ МІРНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ З-ПАД РАСІЙСКАЙ НЯВОЛІ.** Абставіны падштурхоўвалі нацыянальныя сілы да кансалідацыі. Хоць асноўная частка мабілізаваных беларусаў знаходзілася па-за межамі сваёй Айчыны, гэта не перашкаджала ім далучацца да беларускага руху. З'езды беларускіх вайскоўцаў прайшлі на Паўночным фронце ў Віцебску (15--20 лістапада), на Румынскім у Адэсе (3--8 снежня), на Паўднёва-Заходнім у Кіеве (17--22 снежня).

Усе беларускія вайсковыя аб'яднанні падпарадкоўваліся Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Радзе і настойліва дамагаліся ад бальшавіцкага Петраграда аб'яўлення беларускай дэмакратычнай рэспублікі з уваходам яе ў Расійскую федэрацыю народаў, прызнання дзяржаўнай мовай беларускай, прадастаўлення

208

права на стварэнне асобнага беларускага войска, вяртання на Беларусь усіх каштоўнасцяў, вывезеных на працягу вайны, а таксама поўнай адбудовы гаспадаркі краю за кошт ваюючых дзяржаў.

Праходзіла гуртаванне і цывільнага беларускага насельніцтва. І не толькі на радзіме. Беларускія арганізацыі закладваліся ва ўсіх кутках Расіі. У Маскве адбыліся два з'езды беларусаў-бежанцаў, з'езды грамадскіх і настаўніцкіх арганізацый прайшлі ў Смаленску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах. І ўсё ж найбольш актыўна беларускі рух разгортваўся сярод бежанцаў і вайскоўцаў на далёкіх ад Беларусі франтах. І, відаць, таму, што больш паловы мужчынскага насельніцтва з беларускіх губерняў было мабілізавана і адпраўлена як мага далей ад родных хат. А можа і таму, што толькі на чужыне нават беларускі селянін, апрануты ў вайсковы шынель, зведаў, што такое нацыянальны ўціск. Беларусаў высялялі з гарадскіх кватэр, прагнялі з вёсак, не давалі хлебных пайкоў, першымі звальнялі з прамысловых прадпрыемстваў. Тады неяк забывалася, што беларусы -- таксама "рускія". Усе цывільныя арганізацыі беларусаў гуртаваліся вакол Вялікай Беларускай Рады. Менавіта яна і пачала рыхтаваць Усебеларускі з'езд.

Значыць, ужо праз месяц пасля звяржэння Часовага ўрада на Беларусі сфарміраваліся прадстаўнічыя палітычныя арганізацыі беларускага народа, якія гатовы былі ўзяць уладу ў свае рукі. Але ім супрацьстаяў блок расійскіх сіл на чале з бальшавікамі.

## МАЛЕНЬКАЕ СВЯТА ДУШЫ

**У Салігорску 14--15 кастрычніка адбылося свята беларускага слова, арганізаванае мясцовай суполкай ТБМ, і найперш яго старшынёй Марыяй Мацюкевіч, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Салігорскай СШ N 11, якая актыўна працуе на ніве нацыянальнага адраджэння, піша цікавыя і змястоўныя вершы. Яна запрасіла на свята дэпутатаў Вярхоўнага Савета і пісьменнікаў. Прыехалі народны дэпутат Алег Трусаў і Алена Трусава -- супрацоўніца рэдакцыі газеты "Культура", дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, пісьменнікі С. Панізьнік, Э. Ялугін, А. Гардзіцкі, Г. Шупенька, Д. Слаўковіч, Л. Савік, М. Скобла, В. Пазнякевіч, К. Жук.**

**Былі сустрэчы ў Салігорскім краязнаўчым музеі, раённай бібліятэцы, дзе многія прысутныя задавалі шмат пытанняў спадару Алегу Трусаву пасля яго цікавай і змястоўнай прамовы, выступалі і адказвалі на пытанні А. Мальдзіс, Э. Ялугін, Л. Савік, чытаў свае мініяцюры А. Гардзіцкі, спяваў бард В. Пазнякевіч. Адбыўся адкрыты ўрок, які давала па "Шляхціцу Завальні" Я. Баршчэўскага М. Мацюкевіч у 9 класе 11 школы, дзе перайшлі на беларускую мову навучання. У Салігорскім педвучылішчы навучэнцы сустракаліся з А. Мальдзісам і Л. Савік, якія расказалі пра беларусаў у свеце, у іншых салігорскіх школах пабывалі С. Панізьнік, Э. Ялугін, А. Гардзіцкі, М. Скобла, Г. Шупенька, К. Жук, сустракаліся з вучнямі старшых класаў, расказвалі пра сучасную беларускую літаратуру, свае творы, чыталі вершы.**

**Адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 80-годдзю таленавітага беларускага паэта Лявона Случаніна, які двойчы быў рэпрэсіраваны і які цяпер жыве ў Салігорску. Вучні школ падрыхтавалі літаратурную кампазіцыю па яго творах, выступалі пісьменнікі, віншавалі юбіляра, жадалі моцнага здароўя і творчага плёну.**

**Лідзія САВІК.**

**У Салігорску быў таксама фотакарэспандэнт "Голасу Радзімы" Віктар СТАВЕР, які зрабіў гэты фотарэпартаж. На яго здымках вы бачыце віншаванне юбіляра Лявона СЛУЧАНІНА; паэта Сяргея ПАНІЗЬНІКА сярод вучняў СШ №5 і настаўніцу Марыю МАЦЮКЕВІЧ, якая вядзе ўрок беларускай мовы.**







# ЯГО ЖЫЦЦЁ — ТЭАТР

### ДА 60-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗАСЛУЖАНАГА РАБОТНІКА КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ Мікалая ВАРВАШЭВІЧА

З МІКАЛАЕМ Варвашэвічам я знаёмы даўно. Не раз пісаў пра яго сцэнічныя пастаноўкі яшчэ тады, калі ён узначальваў Слонімскі народны тэатр. А два гады назад ён узяў мяне на гомельскі фестываль "Драматычнае мастацтва Беларусі-92". "Складвай чамадан, паедзем на тыдзень у Гомель. Трэба табе дасканала ведаць сённяшнюю тэатральную сітуацыю ў Беларусі. А таксама пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі", -- сказаў Мікалай Фёдаравіч. І мы паехалі...

Менавіта там, у Гомелі, сярод нашых беларускіх акцёраў, рэжысёраў, драматургаў і тэатральных крытыкаў, я адчуў і ўбачыў, якім усё ж вялікім аўтарытэтам і павагай карыстаецца гэты апантана ўлюбёны ў сваю справу чалавек.

Бацькоў сваіх Мікалай Варвашэвіч не памятае, іх знішчылі немцы. Выхоўвала і гадавала яго цётка ў Ленінградзе. Шмат хапанулі гора і бяды ў пасляваенным, разбураным горадзе на Няве, але ўсе цяжкасці былі вытрыманы і перажыты. А ў 1957 годзе беларускі юнак (нарадзіўся ў вёсцы Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна) паступае ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. З вялікай радасцю і сёння Мікалай Фёдаравіч успамінае сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў -- рэжысёра-практыка У.Макар'ева, педагога О.Ольшыц і іншых.

Пасля заканчэння інстытута маладога рэжысёра накіроўваюць на працу ў Калінінскі абласны тэатр (цяпер горад Цвер). Першай яго самастойнай пастаноўкай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага, пасля былі пастаўлены іншыя спектаклі па п'есах рускіх і савецкіх драматургаў. Жывучы ў Калініне, М.Варвашэвіч вельмі хацеў вярнуцца ў родную Беларусь. Але такой магчымасці, на жаль, не было. І вось аднойчы ён сустракае свайго аднакласніка Эдуарда Усачова, які працаваў тады ў Горацкай беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён і прапанаваў Мікалаю Варвашэвічу вярнуцца на радзіму. З радасцю была прынята прапанова, а ў 1964 годзе наш зямляк ужо працуе дырэктарам Дома культуры ў Горках на Магілёўшчыне і адначасова кіруе тэатральным калектывам мясцовай сельскагаспадарчай акадэміі.

У пачатку 1968 года Мікалай Варвашэвіч прыязджае ў горад над Шчарай і пачынае кіраваць Слонімскім народным тэатрам. Яго першай самастойнай працай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага. "Ты пытаеш, ці ёсць у мяне любімыя спектаклі, якія я ўспамінаю і зараз? Вядома ж, ёсць. Гэта ў першую чаргу "На бойкім месцы" А.Астроўскага, "Барабаншчыца" А.Салынскага, першая пастаноўка "Паўлінкі" Янкі Купалы, "Ганка" У.Галубка... Ды дзе ж іх усіх пералічыш", -- гаворыць Мікалай Фёдаравіч. Так, сапраўды, спектакляў у Слоніме рэжысёрам М.Варвашэвічам было пастаўлена шмат. Але больш за ўсё мастак сцэны звяртаўся да беларускай драматургіі. Сцэнічнае жыццё ў Слоніме пабачылі п'есы "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Папараць-кветка" І.Козела, "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцінкевіча, "Таблетку пад язык" А.Макаёнка, "Навальніца будзе" А.Звонака і дзесяткі іншых. Самы вялікі поспех тады меў спектакль "Паўлінка". У 1969 годзе газета "Літаратура і мастацтва" пісала: "Рэжысёр М.Варвашэвіч паказаў сябе ў гэтай пастаноўцы не толькі ўдумлівым інтэрпрэтатарам п'есы, а і добрым настаўнікам самадзейных артыстаў". З "Паўлінкай" народны тэатр гастраляваў у Літве, Латвіі, Эстоніі, Расіі.

Вядома ж, былі тады ў рэпертуары народнага тэатра і п'есы ўкраінскіх і рускіх драматургаў. Папулярнасцю ў гледачоў карысталіся спектаклі "Запомніце іх імёны" П.Салюка, "Дзіўны доктар" А.Сафронава, "Васа Жалязнова" М.Горкага і многія іншыя. Той жа "ЛіМ" пра спектакль "Дзіўны доктар" у 1973 годзе пісаў, што "рэжысёр Мікалай Варвашэвіч і акцёры стварылі спектакль, аб якім з поўным правам можна гаварыць як аб акумулятары радаснага, аптымістычнага светаўспрымання нашых сучаснікаў".

За заслугі перад тэатральным мастацтвам рэспублікі Мікалаю Варвашэвічу ў 1975 годзе было прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Поўны сіл, энергіі і новых творчых задумак, Мікалай Варвашэвіч на гэтым не спыніўся. Яго калектыў першым у рэспубліцы становіцца гаспадарча-разліковым тэатрам-студыяй. Два з паловай гады за ім сачылі абласное ўпраўленне і Міністэрства культуры Беларусі. А тэатр-студыя працаваў паспяхова, грошай не пытаў і нават сам адлічваў у фонд дзяржавы. Пасля гэтага Міністэрства культуры рэспублікі прапанавала тэатру Варвашэвіча перайсці на дзяржаўную структуру кіравання. Што і было зроблена. Ад народнага самадзейнага тэатра, дзякуючы ў першую чаргу яго кіраўніку, зараз у Слоніме існуе прафесійны беларускі драматычны тэатр. Ён працуе толькі на роднай мове, а ў яго рэпертуары значацца драматычныя творы Я.Купалы, У.Галубка, Л.Родзевіча, А.Якімовіча, Я.Шварца, А.Федарэнкі. Я запытаў у Мікалая Фёдаравіча, якія ён яшчэ марыць паставіць на слонімскай сцэне спектаклі. Усміхнуўшыся, ён адказаў: "Даўно мару ажыццявіць пастаноўку п'есы Лопэ дэ Вэга "Сабака на сене". Вельмі люблю гэты драматычны твор. Таксама хачу паставіць п'есу Шэкспіра "Рамэо і Джульета". Хачу паказаць сённяшняму гледачу, як пасапраўднаму можна кахаць, якія чыстыя і светлыя пачуцці ёсць у чалавека... Мары ў мяне вялікія, дай Божа іх яшчэ ажыццявіць..."

-- Гэта п'есы замежных аўтараў. А што вы скажаце пра сучасны стан нашай беларускай драматургіі?

-- Ёсць і ў беларускай літаратуры добрыя драматычныя творы. Але гэта не такія ўсё ж глыбокія, як п'есы Шэкспіра, Мальера, напрыклад. Прычынай, відаць, застаецца той савецкі час, калі творы пісаліся амаль па заказу. Таму я лічу, што за гэтыя амаль семдзесят гадоў шмат згублена. Але напісанае Я.Купалам, У.Галубком, В.Дуніным-Марцінкевічам -- гэта наш нацыянальны скарб. Да іх часцей і звяртаюцца нашы тэатры.

-- А ў якім, наогул, становішчы сёння знаходзіцца тэатральнае мастацтва Беларусі?

-- Нядаўна я быў на нарадзе ў Мінску. Выступалі міністр, намеснік міністра, іншыя дзяржаўныя чыны. З іх прамоў я зразумеў, што ў бліжэйшы час ад дзяржавы дапамогі не будзе. Трэба, відаць, нам спадзявацца на свае ўласныя сілы. Ды й якая можа быць дапамога, калі з вуснаў нашага прэзідэнта я ні разу не чуў слоў "тэатр", "культура", "мастацтва", "літаратура". Дык аб чым тут можа быць размова?..

Так, у цяжкі і складаны час мы жывем. Але надзея ёсць, бо працуюць на зямлі беларускай такія людзі, як Мікалай Варвашэвіч. Таму па добраму зайздросціш яму, што захоплены ён толькі адной справай -- тэатрам. Нашым, беларускім, нацыянальным тэатрам. Хочацца толькі пажадаць яму, каб мара рэжысёра ажыццявілася. Гэта значыць, каб прэм'ера "Рамэо і Джульета" адбылася на сцэне новага тэатра ў цэнтры старажытнага горада Слоніма, які заўсёды славіўся і павінен славіцца тэатральнымі традыцыямі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

НАТАТКІ З СЕМІНАРА "КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА І ЕЎРАПЕЙСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА"

# НІХТО ЗА НАС НЕ ВЫРАШЫЦЬ НАШЫХ ПРАБЛЕМ

### САВЕТ ЕЎРОПЫ НА ВАРЦЕ АХОВЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Семінар быў наладжаны Саветам Еўропы і Міністэрствам культуры і друку рэспублікі Беларусь і праходзіў у Мінску 14--16 кастрычніка.

Наша краіна не з'яўляецца членам Савета Еўропы, аднак яна прэтэндуе на тое, каб ім стаць. Уваходжанне ў Савет Еўропы --гэта шлях да цывілізаванага свету. Пакуль Беларусь мае статус спецыяльнага запрошанага. Летась Беларусь падпісала Еўрапейскую канвенцыю па культуры, што і зрабіла магчымым абмеркаванне праблем культуры Беларусі разам з экспертамі Савета Еўропы, якія наведалі нашу сталіцу. Сярод прадстаўнікоў Савета Еўропы былі Габрыэль Маза, начальнік аддзела культурнай палітыкі і дзейнасці дырэкцыі адукацыі, культуры і спорту Савета Еўропы, Эдуард Дэльгада, Сціў Осцін, Юдзіт Кларк -- незалежны мастацкі кансультант, Жан-П'ер Саез -- намеснік дырэктара "Абсерваторыі культурнай палітыкі".

Савет Еўропы створаны ў 1949 годзе. Ён аб'ядноўвае 32 дзяржавы. Штаб-кватэра Савета Еўропы знаходзіцца ў Страсбургу (Францыя). Галоўным органам Савета Еўропы з'яўляецца Камітэт Міністраў і Парламенцкая асамблея. У Генеральным Сакратарыяце Савета Еўропы працуе 1 000 служачых. Пры гэтай арганізацыі створаны Еўрапейскі Суд па правах чалавека, куды са скаргай можа звярнуцца кожны еўрапеец, незадаволены тым, як рэалізоўваюцца ягоныя правы чалавека на радзіме. Дарэчы, у апошнія гады колькасць спраў, накіраваных у адлаведныя інстанцыі Страсбурга, рэгулярна павялічваецца. Агульная колькасць разгледжаных скаргаў -- 17 500.

Бюджэт Савета Еўропы на бягучы год склаў 755 мільёнаў амерыканскіх долараў. Ён забяспечваецца сродкамі дзяржаў-членаў.

Галоўная мэта Савета Еўропы -- гэта ахоўваць правы чалавека і парламенцкую дэмакратыю, (асабліва ў посткамуністычных дэмакратыях), садзейнічаць еўрапейскай культурнай самабытнасці, заснаванай на агульных каштоўнасцях.

У рамках Савета Еўропы працуюць розныя праграмы, фонды, ажыццяўляюцца праекты. Так, мэта праграмы "Дэмасфен" -- дапамагаць краінам Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў ажыццяўленні рэформаў. Яна прадугледжвае супрацоўніцтва ў розных формах: арганізацыю семінараў, падрыхтоўчых курсаў, вучэбных камандзіровак.

Эксперты Савета Еўропы, што прыязджалі ў Мінск, былі вельмі зацікаўлены культурнымі працэсамі, якія ідуць на Беларусі. Адной з мэтаў наведвання Беларусі, па словах Эдуарда Дэльгада, было знаёмства з культурным жыццём Беларусі. Таму ў праграме візіту было наведванне тэатраў, музеяў, бібліятэк і навучальных устаноў Мінска. Па словах гасцей, яны збіраюцца расказаць у Савеце Еўропы, што ёсць каштоўнага ў нашым мастацтве. На Беларусі галоўная праблема ў сферы культуры -- цяжкасці з яе фінансаваннем. У сувязі з гэтым шматлікія праекты Савета Еўропы для нас застаюцца недасягальнымі. Аднак у сілах Савета Еўропы і нашых павысіць узровень інфармаванасці двух бакоў.

### ЯК ПЕРААДОЛЕЦЬ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ГОЛАД

Рэктар Універсітэта культуры Ядвіга Грыгаровіч падкрэсліла, што без стварэння Каардынацыйнага кансультатыўнага цэнтра паміж Страсбургам і Беларуссю далейшыя сувязі з Саветам Еўропы немагчымыя. У такім цэнтры павінны працаваць пастаянныя супрацоўнікі. Гэты орган аб'яднае высілкі ўсіх накірункаў – культуры, мастацтва, адукацыі. Ён павінен стаць правадніком ідэй з Савета Еўропы на Беларусь і з Беларусі ў Страсбург.

Гэтую прапанову падтрымалі ўсе прысутныя на семінары, бо, як высветлілася з выступленняў на ім, інфармацыйны голад -- адна з самых страшных пакут для нашай культуры.

Прафесар Адам Мальдзіс засяродзіў увагу прысутных на тым, што з-за недахопу інфармацыі пра Беларусь у замежнай прэсе з'яўляюцца публікацыі, у якіх ідзе спекуляцыя на нашай гісторыі. Некаторыя аўтары наогул адмаўляюць Беларусі ў яе гістарычнай спадчыне. На Захадзе не разумеюць многія працэсы, што адбываюцца на Беларусі.

Беларусь можа быць цікавай свету хаця б таму, што яна знаходзіцца на памежжы дзвюх макракультур -- усходняй і заходняй (праваслаўна-візантыйскай і каталіцка-пратэстанцкай). Адначасова адбываецца не толькі іх супрацьстаянне, але і плённае ўзбагачэнне. У выніку нараджаюцца арыгінальныя творы літаратуры, мастацтва, архітэктуры.

Напрыклад, для Беларусі, па словах Дзмітрыя Бубноўскага, які ўзначальвае Дзяржаўную інспекцыю па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, вельмі актуальная праблема -- захаваць драўляныя збудаванні гарадоў. У Еўропе такія будынкі ўжо страчаны. Дзмітрый Бубноўскі заўважыў, што ў агульным банку звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Еўропы павінна быць прадстаўлена Беларусь. Ён падкрэсліў: "Для Беларусі вельмі важная праблема інфармацыі пра тыя гісторыка-культурныя каштоўнасці, што былі вывезены адсюль у розны час. Рэспубліка Беларусь мае пэўныя пагадненні з Расіяй, ЗША. Працуе беларуска-польская кансультатыўная камісія па праблемах гістарычнай спадчыны. Наша краіна выступіла ініцыятарам стварэння пагаднення па праблемах гісторыка-культурнай спадчыны ў межах СНД. Прычым краевугольным каменем пагаднення з'яўляецца праблема ўласнасці каштоўнасцяў, якія знаходзяцца ў бібліятэках, музеях, раней падпарадкаваных ураду СССР. Гэтыя каштоўнасці ў мінулым былі агульныя, таму цяпер аўтаматычна лічыць іх уласнасцю той краіны, на тэрыторыі якой яны знаходзяцца, не зусім лагічна. Нашы прапановы па гэтаму пагадненню ўзгоднены з урадамі ўсіх краін, акрамя толькі ўрада Расіі".

Адсутнасць у Еўропе інфармацыі пра культурнае жыццё Беларусі нараджае тое, што туды трапляе мастацтва не вельмі высокай якасці. У выніку там часам складваецца ўражанне, што на Беларусі (калі такую краіну ведаюць) няма прафесійных тэатральных, музычных калектываў, мастакоў і гэтак далей. Дырэктар Дзяржаўнага ансамбля танца Валянцін Дудкевіч падкрэсліў, што Еўропе неабходна большая інфармацыя пра тыя калектывы, што існуюць на Беларусі.

У гэтай праблемы ёсць і іншы бок: на Беларусі таксама няма ўсебаковай інфармацыі пра мастацтва Еўропы. Мастацкі кіраўнік Альтэрнатыўнага тэатра Вітаўтас Грыгалюнас сказаў так: "Пакуль з Еўропы да нас ідзе культурная прадукцыя нізкай якасці. Ствараецца ўражанне: да нас плыве тое, што непатрэбна там. Беларусаў арыентуюць не на сапраўдныя мастацкія каштоўнасці".

Здавалася б, пераадолець інфармацыйны голад павінна дапамагчы прэса, тэлебачанне. Як сказала Юдзіт Кларк, у Еўропе ёсць уся інфармацыя, якая нам неабходна. Трэба толькі навучыцца ёю карыстацца. Але ж, мне здаецца, праблема ў тым, што яна недасягальная тут, на Беларусі. Застаецца спадзявацца на айчынныя сродкі масавай інфармацыі. Пра іх стан распавядаў на семінары намеснік міністра культуры і друку рэспублікі Іван Карэнда. Ён сказаў, што сродкі масавай інфармацыі -- барометр жыццяздольнасці і жыццядзейнасці грамадства. З ім нельга не згадзіцца і не засмуціцца невысокай жыццяздольнасцю нашага грамадства.

На Беларусі пакуль працуе 715 перыядычных выданняў. У апошнія гады пашырыла свой уплыў дзелавая прэса. З'явілася 156 газет і часопісаў акцыянерных таварыстваў, фірмаў, асацыяцый. Партыі і грамадскія рухі маюць больш як 100 выданняў. Гаспадарамі 84-х выданняў з'яўляюцца прыватныя асобы і рэдакцыі. Здавалася б, такая колькасць крыніц інфармацыі можа задаволіць патрэбы ў ёй любога чалавека. Аднак І.Карэнда падкрэсліў: "Мы не маем нацыянальнага закона аб друку, аб тэлебачанні і радыёвяшчанні, аб выдавецкай справе. Адна з найвастрэйшых праблем -- адсутнасць належнай матэрыяльна-тэхнічнай базы. Беларусь не мае ні сваёй паперы, ні паліграфічнага абсталявання для выпуску друкаванай прадукцыі. Мы вымушаны набываць іх у Расіі. Больш года таму Міністэрства культуры і друку ініцыіравала распрацоўку праекта канцэпцыі развіцця інфармацыйнай прасторы Беларусі. Гэты праект атрымаў пазітыўныя водгукі з боку замежных і айчынных спецыялістаў. Ён прадстаўлены на зацвярджэнне ўрада. Але з-за недахопу сродкаў для рэалізацыі ім не разглядаецца".

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ХТО Ж ЁН, ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ?

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

У гады Вялікай Айчыннай вайны, жывучы ў Вільні, ён рэдагаваў газету "Беларускі голас". Безумоўна, гэта гонару Ф. Аляхновічу не дае. У той жа час, відаць, ёсць падставы паўтарыць услед за А. Бяляцкім: "У якой ступені было шчыльным супрацоўніцтва Ф. Аляхновіча з немцамі?" І далей: "У час адсутнасці Ф. Аляхновіча газету падпісваў "старшыня навуковага таварыства". Можа "Беларускі голас" быў органам гэтага таварыства? Яснасць у гэтым пытанні і ролю Ф. Аляхновіча ў выданні газеты высветляць хіба што больш дасведчаныя".

Адным словам, паколькі з'явілася сцвярджэнне аб "супрацоўніцтве з немцамі", прозвішча Ф. Аляхновіча нідзе не ўпаміналася. Малюнак знаёмы: друкаваць ці не друкаваць пэўнага пісьменніка, мяркуюць па яго поглядах, забываючы, што ў сусветнай практыцы такога даўно няма. Вядома, не прамінаюць сказаць пра аўтара, хто ён быў на самай справе -- патрыёт ці здраднік, але творы, калі яны заслугоўваюць увагі, друкуюць і ў першым, і ў другім выпадку.

"Дык хто ён, Францішак Аляхновіч?" -- паўторым зноў вынесенае ў загаловак пытанне. Дакладныя звесткі пра яго ёсць ва ўжо згаданай "Гісторыі беларускай літаратуры", багаты фактычны матэрыял сабраны А. Сабалеўскім, А. Бяляцкім...

Нарадзіўся Ф. Аляхновіч у Вільні 9 сакавіка 1883 года. Бацька яго Караль Аляхновіч быў скрыпачом, выступаў у Віленскім гарадскім тэатры. Рана далучыў да музыкі і свайго любімага сына. Хлопчыку споўнілася ўсяго пяць гадоў, а ён ужо наведваўся на спектаклі. А яшчэ падахвоціўся маляваць.

Захапленне музыкай, маляваннем не давала магчымасці сур'ёзна займацца школьнай навукай. З вучобай не ладзілася. Таму пасля пяці класаў з гімназіяй давялося назаўсёды развітацца. Не сказаць, каб вялікі плён атрымаўся і з навучання Ф. Аляхновіча ў Віленскай хіміка-тэхналагічнай школе.

К гэтаму часу, хоць яму споўнілася ўсяго дваццаць гадоў, Ф. Аляхновіч прыняў канчатковае рашэнне звязаць свой лёс з тэатрам. Чалавек ён быў рашучы, калі што задумаў, ад свайго не адмаўляўся, таму хутка падаўся ажно ў Кракаў, каб вучыцца ў тэатральнай школе.

Як дабіраўся туды без замежнага пашпарта, гэта ўжо асобная гісторыя з прыгодніцкімі, дарэчы, элементамі. Але ў Кракаве не пашанцавала. Менавіта ў тым, 1903 годзе, школа не працавала. Іншы б назад падаўся. Іншы, але не Ф. Аляхновіч.

Праз колькі часу ён ужо вольны слухач універсітэта, ды мара аб тэатры не пакідала яго, таму праз год Ф. Аляхновіч рашыўся пераехаць у Варшаву. На гэты раз фартуна ўсміхнулася. Ён стаў студэнтам драматычнай школы пры музычным таварыстве, якую скончыў у 1907 годзе. Цэлы год выступаў з трупай польскіх акцёраў.

Па сямейных абставінах у 1908 годзе вярнуўся ў Вільню. Працаваў рэпарцёрам, выдаваў штотыднёвік часопіснага тыпу "Пэркунас". Праўда, і рэдактарская дзейнасць была нядоўгай. Ф. Аляхновіч, які вызначаўся перадавымі поглядамі, надрукаваў у 1910 годзе артыкул, дзе, як палічылі ўлады, было "зняважанне сілаў нябесных" і "імкненне скінуць існуючую ўладу".

Турма пагражала пэўна, таму Ф. Аляхновіч, атрымаўшы позву ў суд, парашыў за лепшае не выпрабоўваць лёс і з'ехаў на Галіччыну. Працягваў выступаць у польскіх правінцыяльных трупах. Даведаўшыся аб амністыі ў 1913 годзе ў сувязі з 300-годдзем дома Раманавых, вярнуўся ў Вільню. Смела пайшоў да пракурора і... атрымаў год Лукішак.

Аказалася, пад амністыю ён і сапраўды падпадаў, але ўлады "зневажанне сіл нябесных" дараваць не маглі. Даравалі толькі "імкненне скінуць існуючую ўладу". Як падумаць, дык логіка ёсць: улады мяняюцца, а Бог адзін.

У турме Ф. Аляхновіч і напісаў сваю першую п'есу "На Антокалі". Спачатку па-польску, а пасля перапісаў па-беларуску.

Відаць, адраджэнскія працэсы, што адбываліся ў жыцці грамадства, станоўча адбіліся на фарміраванні светапогляду Ф. Аляхновіча. Ён кантактаваў з супрацоўнікамі "Нашай нівы", а з некаторымі і сябраваў, тая ж "Наша ніва" падтрымлівала штотыднёвік "Пэркунас". 12 лютага 1910 года ў Вільні адбылася беларуская вечарына. На ёй паказвалі спектакль "Па рэвізіі" М. Крапіўніцкага. У пастаноўцы Ф. Аляхновіч выконваў адну з роляў. Акрамя спектакля, гледачы маглі пазнаёміцца з хорам Л. Рагоўскага, танцавальным калектывам І. Буйніцкага. Як чалавек таленавіты, Ф. Аляхновіч паверыў у будучыню беларускага народа, якая -- у гэтым ён не сумняваўся -- пачынаецца з вяртання да жыцця нацыянальнай мовы.

Антокаль -- прыгарад Вільні. Тым самым ужо назвай сваёй першай п'есы Ф. Аляхновіч арыентаваўся на паказ народнага жыцця. Адчуў гэта пазней М. Гарэцкі, калі даў твору высокую ацэнку: "На Антокалі" -- гэта надта добра зробленая мастацкая фатаграфія жыцця віленскіх жыхароў прадмесця Антокаля". У п'есе М. Гарэцкі вылучыў "колькі мастацкіх тыпаў, што, як жывыя, стаяць уваччу". Найперш Ігната Радзівіловіча, які "найлепей паказаны з псіхалагічнага боку". На думку даследчыка, драматург пайшоў далей за сваіх папярэднікаў: "Аляхновіч, вырасшы ў сферы нябачнага ўжо для масы, але бесперапыннага апалявання, увайшоў у сваю родную літаратуру з творам без характэрных нашаніўскіх прыкмет і матываў. Ён зусім тут спакойны ад адраджэнскай мукі, багата паказаў новую ў літаратуры беларускую сферу, сферу мяшчанскага жыцця. Гэта знак, як вырасла адраджэнне".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

(Заканчэнне будзе).

# НІХТО ЗА НАС НЕ ВЫРАШЫЦЬ НАШЫХ ПРАБЛЕМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Беларускія сродкі масавай інфармацыі не могуць забяспечыць нас якаснай інфармацыяй пра падзеі ў Еўропе, бо яны не маюць карэспандэнцкіх пунктаў у замежжы. Выключэнні толькі Белінфарм, якое мае аддзяленне ў Маскве, газеты "Рэспубліка" і "Советская Белоруссия", якія маюць журналістаў у Германіі.

Узровень журналісцкіх кадраў Беларусі не адпавядае еўрапейскаму. І.Карэнда звярнуўся да экспертаў Савета Еўропы з просьбай паспрыяць адкрыццю карэспандэнцкіх пунктаў і арганізацыі стажыроўкі журналістаў у Еўропе.

Адна з галоўных перашкод для свабоднага патоку інфармацыі -- праблема з веданнем замежных моў. Для большасці з нас праблематычна свабодна карыстацца хаця б адной замежнай мовай. І гэта ўплывае на многія сферы нашага жыцця. Так, афіцыйнымі мовамі Савета Еўропы з'яўляюцца англійская і французская. Добра было б, каб пры правядзенні сустрэч быў пераклад на беларускую ці рускую мовы. Гэта трэба зрабіць хаця б на пераходным перыядзе, пакуль нашы спецыялісты не вывучаць мовы.

Не сакрэт, што пераклады мастацкіх твораў замежных аўтараў рабіліся не з мовы арыгінала, а з рускай на беларускую. Дзяржава ніколі сур'ёзна не займалася перакладамі на беларускую мову. У выніку мы маем недахоп ведаў, іінфармацыі пра свет і ягонае мастацтва.

Сціў Осцін, прэзідэнт сеткі "Гулівер", які ўжо другі раз наведаў Беларусь, сказаў на гэты конт наступнае:

—Моладзі не хапае сувязей, камунікацый, але гэта не катастрофа. Спатрэбіцца час, каб уключыцца ў еўрапейскі працэс. Еўропа адкрытая. Але я бачу перад ёю для вас не толькі валютную заслону. Наіўна думаць, што мы любім і цікавімся адзін адным. У рэальнасці ніхто нікога не чакае. Кожнаму ў ягонай дзейнасці патрэбны партнёры. Сістэма сетак -- гэта пошук партнёраў. Менавіта сеткі аб'ядноўваюць зацікаўленых у адной справе людзей. Сеткі дапамагаюць мастакам у рашэнні іхніх праблем, у пошуку зацікаўленага гледача. Я не веру, што магчыма стварыць цывілізаванае грамадства без уздзеяння людзей мастацтва.

## НАШЫ ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЛІСЯ З НАМІ

Намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Рылатка, які вёў пасяджэнні семінара, сказаў: "Дыпламатыя можа толькі пастукаць у дзверы. Адчыняе іх грамадская зацікаўленасць".

На семінары былі абмеркаваны самыя розныя пытанні -- спонсарства, працэс дэцэнтралізацыі культуры, фінансаванне культуры.

У большасці еўрапейскіх краін дзяржава дае ўсё менш сродкаў на развіццё культуры, а павялічваецца спонсарства. Аднак Юдзіт Кларк сказала, што яна не рэкамендавала б нам ісці па такому шляху.

На Беларусі трэба перагледзець размеркаванне сродкаў, што ідуць на культуру.

Савет Еўропы -- не фінансавая, а хутчэй кансультатыўная арганізацыя. Гэта трэба добра ўсвядоміць. У Савета Еўропы ёсць праграма, якая забяспечвае ў пэўнай краіне працу камісіі па культуры. Яна працуе паралельна з дзяржаўнай камісіяй. Потым яны сустракаюцца і высвятляюць, якія недахопы ёсць у структурах кіравання культурай, шукаюць шляхі змянення сітуацыі. Адной з апошніх краін, што запрашала да сябе такую камісію, былі Нідэрланды. Зразумела, гэты праект дарагі. Не для нас.

Праца экспертаў Савета Еўропы на семінары ў Мінску стала першым крокам на шляху наладжвання супрацоўніцтва з Беларуссю. Ён не можа быць простым. Нам трэба яшчэ шмат вучыцца працаваць у Еўропе. Нам трэба зразумець, што ніхто не прыйдзе і не вырашыць нашых праблем. Толькі самі, калі захочам і зможам.

**Алена СПАСЮК.**

# МАЛАДОЕ ВЯЗЬМО

*Словы Сяргея ПАНІЗЬНІКА Музыка Алега ЧЫРКУНА*




**Хмялела поўня аржаная,**
**а знічкі вызначылі лёс...**
**Мы сёння ціха ўспамінаем**
**вязьмо зары, туманны плёс.**

**Няма вязьма на маладыя**
**сустрэчы, сцежкі, галасы.**
**Сябры, збірайце залатыя**
**заранкі, росы, каласы!**

**Зноў маладзік ускінуў рожкі**
**на тую песню, што вяла**
**да незарослае дарожкі,**
**да незабытага сяла.**

**Давайце бегчы наўздагонкі**
**за васільком, за каласком!**
**Вязьмо -- як месяц срэбразвонкі --**
**дзявочым вісне паяском.**

# СПОРТ

**Доўгія гады не сыходзіла са старонак сусветнай і саюзнай прэсы імя заслужанага майстра спорту, чэмпіёна маскоўскай Алімпіяды, неаднаразовага прызёра сусветных і еўрапейскіх першынстваў па выездцы на конях Віктара Угрумава. Нямала славы прынеслі яго выступленні беларускаму спорту.**

**У апошнія гады праслаўлены спартсмен адышоў ад трэнерскай работы, забылася пра яго і прэса. А ён, аказваецца, жывы-здаровы і па-ранейшаму займаецца любімай справай. Толькі ўхіл крыху змяніў. Трэніруе і даводзіць да дасканаласці прыгажуноў-скакуноў у конна-спартыўным цэнтры, які ўжо тры гады існуе на тэрыторыі калгаса "Маяк" Ашмянскага раёна і, дарэчы, носіць імя алімпійскага чэмпіёна Віктара Угрумава.**

**Першыя вынікі работы комплексу перавысілі ўсе чаканні. За год-два з грацыёзных дзікіх неаб'езджаных скакуноў, што закупляюцца цэнтрам на прасторах былога СССР, Угрумаў са сваімі памочнікамі робіць паслухмяных коней, якія многае ўмеюць, гатовы ўдзельнічаць і ў скачках, і ў выездцы. Попыт жа на іх вялікі. Пакупнікі, у асноўным, з далёкага замежжа з задавальненнем набываюць ужо гатовых да спаборніцтваў грацыёзных пародзістых коней. І плацяць добрыя грошы.**

**А цэнтр працягвае навучанне "неслухаў", якія толькі што паступілі сюды. Да сёмага поту працуюць з раніцы да позняга вечара трэнеры, і больш за ўсіх -- сам Угрумаў.**



**НА ЗДЫМКУ: вось такіх прыгажуноў робіць паслухмянымі наезніку Віктар УГРУМАЎ.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## "ПАКРЫЎДЗІЛІ" МАСКВІЧОЎ

Удала выступаюць у апошніх турах хакеісты мінскай "Цівалі" ў чэмпіянаце МХЛ. З чатырох апошніх гульнях яны тройчы перамаглі. Сапраўдны сюрпрыз паднеслі нашы хакеісты ў сустрэчах з маскоўскімі клубамі. Так, ад беларускай каманды пацярпелі паражэнні "Спартак", "Крылы Саветаў" і "Дынама". Прычым, апошнія прапусцілі пяць шайбаў, на што адказалі толькі адной, у Маскве.

## ПЕРАМОГА, РОЎНАЯ ПАРАЖЭННЮ

У паўторным матчы адной шаснаццатай фіналу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў мінскі СКА перамог у Італіі клуб "Прынчыпе" з лікам 28:27. Але дома нашы землякі раней прайгралі сапернікам з розніцай у два мячы. Такім чынам, СКА выбыў з розыгрышу.

Затое парадавалі спартсменкі каманды ВВВ "Універсітэт" з Гомеля, якія перамаглі швейцарскі клуб "Спона-Нотвіл" і выйшлі ў наступны круг.

# ВЫСТАЎКА НА "БЕЛАЙ ДАЧЫ"

У адным з помнікаў архітэктуры Мінска "Белай дачы" прайшла выстаўка нетрадыцыйнага сучаснага мастацтва.

Побач з жывапіснымі палотнамі тут былі прадстаўлены і прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асабліва захапляліся наведвальнікі мініяцюрамі з натуральнага каменю (ручная работа), якія вызначаліся тонкасцю, прыгажосцю, вялікай разнастайнасцю сюжэтаў -- ад пейзажаў да ікон.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 43. Падпісана да друку 24. 10.1994 г.**